Гродна
№14 (449),
14 жніўня 2016

# Слова Жыцця



www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

# Сусветныя дні моладзі – сапраўднае свята веры





*XXXI Сусветныя дні моладзі з удзелам Святога Айца Францішка прайшлі ў Польшчы з 26 па 31 ліпеня. Галоўныя падзеі адбываліся ў Кракаве – духоўнай сталіцы Божай міласэрнасці, у горадзе, асаблівым чынам звязаным з ініцыятарам СДМ – св. Янам Паўлам II. Дэвізам спаткання сталі словы Езуса: “Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць” (Мц 5, 7).*

● працяг на с. 4–5

## Каляндар падзей

**15 жніўня**
Урачыстасць Унебаўзяцця НПМ.
Блаславенне зёлак і кветак.

**24 жніўня**
Свята св. апостала Барталамея.

**26 жніўня**
Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Чанстахоўскай (Яснагорскай).

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Жнівень**
Аб цвярозасці ў нашым грамадстве.
За разбітыя і зняволеныя хваробай алкагалізму сем'і.
Аб развіцці ў парафіях пастырскай дзейнасці над ратаваннем залежных людзей.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**“Голас Евангелля”**
Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Інтэрнэт-апытанне (www.grodnensis.by)

**Калі Вы апошні раз размаўлялі з ксяндзом са сваёй парафіі?**

- на працягу апошняга месяца
- на працягу апошняга паўгоддзя
- на працягу апошняга года
- больш за год таму
- у дзяцінстве, маладосці
- ніколі

выкажыся 

**“Дзякуй Богу за тое, што дае нам прыклад маладых і адважных людзей!”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 12, 49–53**

Езус сказаў сваім вучням: “Агонь прыйшоў Я кінуць на зямлю і як жа хачу, каб ён ужо разгарэўся. Хростам павінен Я ахрысціцца і як жа пакутую, пакуль гэта не споўніцца. Думаеце, што Я прыйшоў даць зямлі спакой? Не, кажу вам, не спакой, але раздзяленне. Бо з гэтага часу пяцёра ў адным доме будуць падзеленыя, трое супраць дваіх і двое супраць траіх. Бацька будзе супраць сына, і сын супраць бацькі, маці супраць дачкі, і дачка супраць маці, свякроў супраць нявесткі сваёй, і нявестка супраць свекрыві сваёй”.

### ПЕРАМОГА ЕЗУСАВАЙ ЛЮБОВІ

Езус Хрыстус, прыходзячы на зямлю, прыносіць збунтаванаму і разгубленаму свету супакой. Але не ўсе людзі прымаюць гэты дар Езуса. Не ўсе жывуць ва ўзаемнай любові адзін да аднаго.

Хрыстос прыходзіць, каб пакласці канец усім разломам і расколам, якія пануюць у многіх людскіх сем’ях, дзе бацькі паўстаюць супраць дзяцей, дзеці – супраць бацькоў і г. д. Ён прагне, каб паміж людзьмі запанаваў супакой, каб усе адчулі сябе сапраўды вольнымі і шчаслівымі.

Перажываючы Юбілейны год міласэрнасці, мы асаблівым чынам запрошаны да любові. У нас столькі нагод для гэтага! Столькі людзей Пан Бог кожны дзень ставіць на нашым жыццёвым шляху! Мы павінны даць ім любоў, унесці ў іх дамы і сем’і Хрыстовы супакой, падарыць просты жэст дабрыні і прыязнасці нашым блізкім. Толькі любоў канчаткова пераможа і з’яднае ўсіх вакол Даўцы і Стварыцеля гэтай любові – Езуса Хрыста.

**XXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 13, 22–30**

Накіроўваючыся ў Ерузалем, Езус праходзіў праз гарады і вёскі і навучаў. І нехта сказаў Яму: “Пане, няўжо мала тых, хто будзе збаўлены?”. Ён жа сказаў ім: “Імкніцеся прайсці праз вузкую браму, бо, кажу вам, многія будуць спрабаваць увайсці, але не змогуць. Калі гаспадар дому ўстане і зачыніць дзверы, тады вы, стоячы па-за домам, пачнеце стукаць у дзверы і казаць: «Пане, адчыні нам». Але Ён скажа ў адказ: «Не ведаю вас, адкуль вы». І пачнеце казаць: «Мы елі і пілі перад Табою, і на вуліцах нашых навучаў Ты». Але Ён скажа вам: «Не ведаю вас, адкуль вы; адыдзіце ад Мяне ўсе, хто чыніць несправядлівасць». Там будзе плач і скрыгатанне зубоў, калі ўбачыце Абрагама, Ісаака і Якуба, і ўсіх прарокаў у Валадарстве Божым, а сябе – выкінутых вон. І прыйдуць з усходу і з захаду, з поўначы і з поўдня, і сядуць за стол у Валадарстве Божым. І вось будуць апошнія, якія стануць першымі, і будуць першыя, якія стануць апошнімі”.

### ЗБАЎЛЕННЕ – КАНЧАТКОВАЯ МЭТА ЧАЛАВЕКА

Езус прыйшоў на зямлю, каб збавіць нас. Сваім прагненнем Ён ахінуў усіх людзей. Нікога не адлучаў ад дасягнення канчатковага шчасця ў небе. Збаўленне, паводле Езуса, – нялёгкая справа. Перш за ўсё, яго ўскладняе недахоп веры і ўпартасць чалавечага сэрца. Вера з’яўляецца асноўнай умовай збаўлення. Святы Павел сцвярджае, што без веры нельга падабацца Богу (Гбр 11, 6).

Трэба вырашыцца на вялікае намаганне, бо збаўленне не падае на чалавека з неба, але з’яўляецца плёнам доўгай, а часта і цяжкай чалавечай працы. Мы павінны ўвайсці праз “вузкую браму”, што ў біблійнай мове азначае цяжкасці, якія чалавек сустракае на шляху да вызначанай мэты.

„Імкніцеся...”! Не існуе таннага збаўлення, таму што Божае Валадарства заўсёды шмат каштуе.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Прагнем надалей працягваць прыгожую гісторыю



## Слова рэдактара

*Пад канец мінулага месяца мы сталі сведкамі надзвычайнай падзеі. Сёлетні ліпень увайшоў у гісторыю не толькі спякотай летніх сонечных прамянёў, але, можа, у большай ступені дзякуючы гарачыні сотняў тысяч сэрцаў маладых людзей, якія з усяго свету прыбылі на XXXI Сусветныя дні моладзі ў Кракаў. Была там і некалькітысячная група з нашай краіны.*

**Галоўны рэдактар газеты “Слова Жыцця”**
Кс. Юрый Марціновіч нарадзіўся 20 мая 1985 г. у Гродне. Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Элку (Польшча). Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў 29 мая 2010 г. у Гродне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча. З’яўляецца дактарантам універсітэта імя кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве. Рыхтуе доктарскую дысертацыю на тэму “Каталіцкія СМІ як інструмент новай евангелізацыі ў адраджэнні Касцёла ў Беларусі”. На працягу апошніх пяці гадоў з’яўляўся дырэктарам інфармацыйнай службы пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі ў Мінску. Са жніўня 2016 г. прызначаны біскупам Аляксандрам Кашкевічам на пасаду галоўнага рэдактара дыяцэзіяльнай газеты “Слова Жыцця”.

Маладыя людзі ехалі ў Кракаў, каб памаліцца разам са Святым Айцом Францішкам. Ім было неабходна, каб хтосьці паверыў, што яны – добрыя людзі. А Папа менавіта так заўсёды і думае: моладзь – гэта наша надзея. Падзея стала сапраўдным святам веры і маладосці нашага Касцёла і найлепшым доведам у жыцці маладых людзей.

Невыпадкова, што гэтае моладзевае сведчанне веры і абвяшчэнне любові Хрыста гучала ў надзвычайны Юбілейны год міласэрнасці менавіта з Кракава, адкуль па ўсім свеце разышлося пасланне аб міласэрнасці Пана. Маладыя людзі з іскрай вырушылі адтуль у розныя бакі свету, каб дзяліцца сваёй верай, быць сапраўднымі сведкамі Езуса Міласэрнага, які і сёння дзейнічае з вялікай моцай і сілай.

З такім юнацкім запалам і энтузіязмам я як новы галоўны рэдактар нашай дыяцэзіяльнай газеты “Слова Жыцця” прагну прыняць гэты выклік, які прапанаваў мне Касцёл. Я вельмі ўдзячны святарам, якія стварылі гісторыю нашай газеты з 1997 г., на чале з маім непасрэдным папярэднікам – кс. Паўлам Салабудам, які кіраваў рэдакцыяй на працягу апошніх сямі гадоў.

Перад цяперашнім калектывам яшчэ шмат працы. Мы прагнем дайсці да ўсіх нашых чытачоў і разам з іншымі каталіцкімі сродкамі масавай інфармацыі нашай краіны надалей настойліва ўказваць на таблiцы Дэкалога і хрысціянскія вартасці, а таксама бараніць карані Еўропы. Мы будзем шукаць новыя формы абвяшчэння Евангелля ў свеце, поўным супярэчнасцей, дзе людзі жывуць у пастаяннай спешцы. З яшчэ большым запалам будзем знаходзіць сляды Бога ў штодзённасці і дабірацца да сучасных сведкаў веры нашых зямель. Праз гэта мы жадаем паказаць, што наша благаслаўлёная зямля, акропленая крывёю мучанікаў, мае годных людзей, якія любяць Пана Бога і стараюцца весці вартае хрысціян жыццё.

З часам рэдакцыя прапануе новыя рубрыкі, новыя твары, новыя прозвішчы...

**Сардэчна вітаю чытачоў і запрашаю жадаючых да творчага супрацоўніцтва. Прыкладзём разам як мага больш намаганняў, каб нашае “Слова” сапраўды стала для кожнага “Жыццём”. Няхай дыяцэзіяльная газета стане госцем у кожнай каталіцкай сям’і!**

ДЭКАНАТ
ЛІДА

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

# Ліда
## Фарны касцёл Узвышэння Святога Крыжа



*Знешні выгляд*



*Інтэр’ер святыні*

працяг з папярэдняга нумара

Інтэр’ер касцёла, аздабленне якога стварыў вядомы архітэктар Іаган Крыштаф Глаўбіц у 1765–1770-х гг., падзелены на тры нефы чатырма апорамі і перакрыты сістэмай цыліндрычных скляпенняў на падпружных арках з распалубкамі. На скляпеннях у барокавым арнаментальна-дэкаратыўным абрамленні намаляваны сюжэты “Узвышэнне Святога Крыжа”, “Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі”, “Звеставанне”. Скляпенні дэкараваны арнаментальнымі матывамі.

У касцёле змешчаны восем алтароў. Галоўны створаны ў стылі ракако, раскрапаваны чатырма калонамі і спаранымі пілястрамі карынфскага ордэра, размаляванымі пад мармур. У цэнтры змешчана вялікае гіпсавае Укрыжаванне, створанае віленскім мастаком Зімадро і ахвяраванае ў 1861 г. Станіславам Вольскім (у 1777 г. тут знаходзіўся абраз Маці Божай Ружанцовай са старога касцёла ў атачэнні 123-х вотаў). Пры калонах усталяваны фігуры святых апосталаў Пятра (злева) і Паўла (справа), Найсвяцейшай Панны Марыі (злева) і апостала Яна Багаслова (справа). У 1777 г. – св. Станіслава і св. Казіміра, у 1882 г. – св. Сафіі і св. Казіміра. У другім ярусе змешчаны абраз “Апошняя вячэра”, у завяршэнні алтара – ляпныя аблокі вакол круглай люкарны (у 1777 г. тут знаходзілася манаграма Імя Марыі). У канцах нефаў усталяваны дзвюхкалонныя двух’ярусныя бакавыя алтары, завершаныя гарэльефнымі выявамі серафімаў у аблоках, таксама ў стылі ракако. Злева знаходзіцца алтар Маці Божай Вастрабрамскай. Абраз намаляваны ў 1847 г. мастаком Азямблоўскім на дубовай дошцы і ахвяраваны касцёлу шляхцічам Янам Андрушкевічам. У 1777 г. тут быў абраз Пана Езуса каля слупа са старога касцёла. У другім ярусе алтара – абраз Маці Божай Шкаплернай (у 1882 г. на гэтым месцы быў абраз Маці Божай Ружанцовай). Справа – алтар з абразом св. Францішка (у 1777 г. тут быў абраз св. Яна Непамука) і фігурай Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Наверсе – абраз св. Тэклі (у 1882 г. тут быў абраз Маці Божай Шкаплернай). Два алтары ўсталяваны пры апорах, бліжэйшых да прэзбітэрыя. Злева знаходзіцца алтар з абразом Маці Божай Лідскай (Ружанцовай, які, згодна з паданнем, прывезлі ў Ліду першыя манахі францішканцы ў 1376 г. з Візны). На гэтым месцы ў 1882 г. знаходзіўся абраз св. Казіміра, намаляваны мастаком Мірскім і ў 1855 г. ахвяраваны кс. дэканам Дыянізіем Хлявінскім. Наверсе – абраз св. Юзафа (у 1882 г. абраз знаходзіўся ў правым бакавым алтары, намаляваны мастаком Мікульскім і ў 1853 г. ахвяраваны кс. дэканам Хлявінскім). Справа – алтар з абразом св. Тэрэзы (у 1882 г. быў абраз св. Тэклі), наверсе – абраз Божай Міласэрнасці. Яшчэ два барокавыя алтары ўсталяваны пры сценах касцёла: злева – св. Антонія, справа – св. Станіслава Біскупа. Абраз намаляваны мастаком Мірскім і ў 1856 г. ахвяраваны кс. дэканам Хлявінскім. І яшчэ адзін алтар – Маці Божай з Лурда – змешчаны ў нішы харавай сцяны, справа ад уваходу (у 1777 г. тут быў алтар св. Барбары).

Над уваходам зроблены хоры, дзе ўсталяваны арган на дзесяць галасоў з трыма мяхамі. За алтаром у тоўшчы сцяны знаходзіцца лесвіца, якая вядзе ў крыпту (ачышчаная ад пахаванняў у 1846 г.). Комплекс касцёла з асобна пабудаванай званіцай быў абнесены мураванай агароджай з барокавай брамай. Званіца знікла яшчэ ў XIX ст., агароджа знесена ў пасляваенны час. Пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа, а з 1624 г. яшчэ і ружанцовае брацтва. Было таксама два прытулкі: мураваны шпіталь каля касцёла (пабудаваны ў другой палове XVIII ст., рэканструяваны ў 1851 г. на сродкі Канстанцыі Быстрыцкай) і драўляны – пры парафіяльных могілках.

У 1928 г. касцёл быў асвечаны віленскім арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Перад Другой сусветнай вайной лідская парафія налічвала амаль 14 тыс. вернікаў (не лічачы Ліда-Слабодскай парафіі). Да фарнага касцёла з XVIII ст. належалі філіяльныя касцёлы ў Крупаве і Кір’яноўцах, у XIX ст. – капліцы ў Востраве, Перапечыцах, Чэхаўцах і на парафіяльных могілках. У 1920-я гг. далучылася капліца ў гарадской вязніцы, а ў 1930-я – яшчэ і капліца ў Цвермах, але знікла капліца ў Чэхаўцах. З 1922 г. пробашчу ў парафіі дапамагалі сёстры з Супольнасці Дачок Панны Марыі Беззаганнай.

Касцёл Узвышэння Святога Крыжа дзейнічаў і ў гады панавання савецкай улады. Быў залічаны да помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння.

# Мы цалкам Твае, Марыя!



***Урачыстасці ў гонар Маці Божай Кангрэгацкай прайшлі 4–5 жніўня ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Шматлікія вернікі цягам дваццаці чатырох гадзін няспынна чувалі перад цудатворным абразом, праслаўляючы веліч Найсвяцейшай Маці ды ўзносячы малітвы аб Яе заступніцтве і дапамозе.***

Згодна з традыцыяй урачыстасці ў гонар Маці Божай Кангрэгацкай папярэднічала малітоўнае чуванне, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх парафій горада. Кульмінацыйным момантам свята стала адпустовая св. Імша, якую цэлебраваў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Звяртаючыся да шматлікіх вернікаў, прысутных на набажэнстве, іерарх адзначыў выключную ролю Марыі ў жыцці кожнага чалавека. Біскуп падкрэсліў, што Маці Божая апекуецца намі, а мы павінны дбаць пра тое, каб вера, захаваная і перададзеная старэйшым пакаленнем, надалей фармавала жыццё грамадства. "Сённяшні свет патрабуе сведкаў Езуса Хрыста, якія б не навучаннем ці словам, а звычайным штодзённым жыццём сведчылі аб сваёй веры, аб Божым Валадарстве, брамы якога адкрыў для свету Езус. Няхай Божая Маці і Яе заступніцтва дапаможа нам трываць у еднасці з Хрыстом, і праз гэта – у радасці Яго Валадарства", – сказаў іерарх.

Акрамя таго, біскуп заахвоціў вернікаў давяраць Маці Божай свае сэрцы, думкі, жыццёвыя клопаты і ўзносіць да нябеснай Апякункі малітвы з просьбай бараніць ад усяго злога.

Напрыканцы ўрачыстасці прадстаўнікі малітоўнай групы Маці Божай Кангрэгацкай пажадалі кс. б-пу Алегу Буткевічу, каб Марыя заўсёды ахінала яго сваёй матчынай любоўю, а таксама паабяцалі памятаць аб ім у сваіх малітвах. У знак падзякі пробашч катэдры кс. Ян Кучынскі ўручыў іерарху копію абраза.



*Неад'емнай часткай урачыстасці ў гонар Маці Божай Кангрэгацкай з'яўляецца працэсія з копіяй цудоўнага абраза*

## ПА ЦУДЫ НЕ ТРЭБА ЕХАЦЬ ДАЛЁКА

Менавіта так кажуць гродзенскія вернікі, якія з надзеяй і пакорай моляцца перад цудадзейным абразом Маці Божай Кангрэгацкай. Яны ўпэўнены, што ў цяжкія хвіліны, якіх хапае ў жыцці кожнага чалавека, можна прыйсці да Панны Марыі, шчыра папрасіць і атрымаць патрэбныя ласкі.

Як адзначае кс. Ян Кучынскі, кніга, у якой запісваюцца цуды, здзейсненыя праз заступніцтва Маці Божай Кангрэгацкай, штогадова папаўняецца новымі гісторыямі. Культ Марыі – апякункі Гродна – няспынна пашыраецца і квітнее. "Перад цудадзейным абразом заўсёды нехта моліцца, – гаворыць пробашч парафіі. – Людзі прыходзяць да Марыі з рознымі інтэнцыямі: нехта просіць аб фізічным аздараўленні, нехта – аб духоўным. І цуды здараюцца. Памятаю гісторыю, калі перад абразом Маці Божай маліўся малады хлопец, якога чакала складаная аперацыя на сэрцы. Пасля ён паехаў на паўторнае медыцынскае абследаванне і аказалася, што аперацыя ўжо непатрэбная, паколькі ён цалкам здаровы. Таксама ўзгадваю выпадак з цяжарнай жанчынай, якой па медыцынскіх паказаннях неабходна было рабіць аборт. Яна, засмучаная, прыйшла ў катэдру прасіць парады. Адзін з нашых святароў параіў жанчыне аддацца апецы Маці Божай Кангрэгацкай і даверыць Ёй сваё дзіцятка. Жанчына малілася доўгі час. У выніку нарадзіўся здаровы хлопчык, якога ахрысцілі і назвалі Яраславам. Адным з апошніх зафіксаваных цудаў з'яўляецца аздараўленне немаўляці. Хлопчык, які нарадзіўся ў гродзенскай радзільні, праз некалькі дзён раптам перастаў самастойна дыхаць. Медыкі агледзелі дзіця і са спачуваннем сказалі бацькам рыхтавацца да найгоршага. Бабуля немаўляці шчыра малілася перад цудадзейным абразом Маці Божай. У шпіталі хлопчыка ахрысцілі, а ўжо праз гадзіну дзіця паправілася і яго адключылі ад апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх. Зараз маленькі Сяргей здаровы і нядаўна адсвяткаваў свой першы Дзень нараджэння".

Па словах ксяндза пробашча, удзячныя вернікі, якія атрымліваюць ацаленні, вяртаюцца ў святыню, каб пакінуць свае сведчанні ў "Кнізе цудаў", прыносяць воты: залатыя і срэбныя ланцужкі, ружанцы, нацельныя крыжыкі, воты ў форме сэрцаў ды інш.

Для скептыкаў, якія цалкам адмаўляюць само існаванне цудаў, вышэй апісаныя гісторыі, магчыма, пададуцца непраўдападобнымі. Але для людзей, якія спазналі ласкавую дапамогу Маці Божай ды пазбавіліся ад цялесных і душэўных пакут, яны будуць чарговым сведчаннем усемагутнасці нашай нябеснай Заступніцы і Яе бясконцай мацярынскай любові.

**Кінга Красіцкая**

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Калі ў жыцці нам здараецца пацэліць нізка замест высока, нам можа дапамагчы адна цудоўная праўда: Бог верны ў любові да нас, і нават настойлівы. Нам дапаможа думка, што Ён любіць нас больш, чым мы самі сябе любім, верыць у нас больш, чым мы верым у сябе, заўсёды за нас "балее", як самы верны з фанатаў. Ён заўсёды чакае нас з надзеяй, нават калі мы замыкаемся ў нашым смутку, увесь час узгадваючы спазнаную крыўду і мінулае. Але прывязанасць да смутку не варта нашай духоўнай паставы! Гэта, на самой справе, нейкі "вірус", які заражае, зачыняе ўсе дзверы, не дазваляе пачаць жыццё занава, зрабіць яшчэ адзін старт. Але Бог не губляе надзеі: Ён заўсёды верыць, што мы можам падняцца, і не паддаецца, калі бачыць нас маркотнымі і бязрадаснымі, бо мы заўсёды застаёмся Яго любімымі дзецьмі. Давайце памятаць пра гэта на пачатку кожнага дня. Варта штораніцы казаць у малітве: "Пане, дзякую Табе за тое, што любіш мяне; дапамажы мне закахаца ў маё жыццё!". Не ў мае недахопы, якія неабходна выправіць, а ў жыццё, якое з'яўляецца вялікім дарам – часам, каб кахаць і быць каханым.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы ў кампусе Misericordiae у Бжэгах*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Кожнае пакліканне – гэта дар як для самога пакліканага, так і для ўсяго Касцёла. Адорваючы выбранага чалавека ласкай паклікання, Пан Бог дае яму шанс асабістага асвячэння, усталявання асаблівай духоўнай сувязі з Езусам Хрыстом, будавання ўласнага жыцця паводле найвышэйшых ідэалаў Евангелля. У Касцёле кожны пакліканы мае акрэсленую місію для выканання і ўзбагачае сабой і сваім прызначэннем усю супольнасць вызнаўцаў Хрыста.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы на сустрэчы прадстаўнікоў Францішканскага ордэна свецкіх*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Божая міласэрнасць бязмежная, і з яе можа скарыстаць кожны. Толькі той, хто не звяртаецца да Бога з просьбай аб міласэрнасці, не спазнае яе, падобна таму, як чалавек, які закрываецца ад сонца, не спазнае яго святла і цяпла.*

*Як кажа папа Францішак, міласэрнасць з'яўляецца прыкметай Бога і нават Яго імем. Таму і мы, створаныя па вобразе і падабенстве Божым, таксама павінны быць міласэрнымі.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай у XV Звычайную нядзелю*

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. НАКАРМІЦЬ ГАЛОДНЫХ




Нягледзячы на перадавыя тэхналогіі і залішнюю вытворчасць прадуктаў харчавання, існуюць сотні мільёнаў людзей, якія недаядаюць і паміраюць з голаду. Сёння ў свеце пакутуе кожны дзявяты чалавек! А гэта не проста лічбы, як заўважае папа Францішак, "гэта людзі, нашыя браты і сёстры". Святы Айцец называе голад "скандалам, які паказвае слабасць чалавецтва", і заклікае свет адкрыць вочы на патрэбы бліжняга.

Колькасць людзей, якія цярпяць нястачу і голад, гаворыць аб тым, што яны вакол нас: у сям'і, сярод знаёмых або незнаёмых, у горадзе, краіне, свеце. Прычыны таму могуць быць рознымі: неўраджай, недахоп матэрыяльных сродкаў, няўмелае карыстанне рэсурсамі і г. д.

Часта людзям, пакутуючым ад галечы і ўбоства, сорамна прызнацца ў сваёй жыццёвай сітуацыі і прасіць дапамогі. Яны хаваюць сваю беду, бо асцерагаюцца асуджэння з боку людзей. Таму, каб убачыць патрабуючага, трэба мець адкрытыя вочы і сэрца, глядзець на бліжняга не з пагардай, а з павагай да яго годнасці.

Некаторыя людзі пераржываюць пачуццё пакінутасці, разгубленасці, безнадзейнасці і проста баяцца прасіць дапамогі. Многія з іх ужываюць алкаголь, каб "заглушыць" свой страх, стаць больш адважнымі і настойлівымі. Гэта іх не апраўдвае, але і не павінна пакідаць абыякавымі астатніх. Варта ўсведамляць, што беднасць не загана. У падобнай сітуацыі заўтра можа апынуцца кожны. "Умейце глядзець на тварЫ гэтых людзей, зазірнуць ім у вочы, паціснуць руку, убачыць у іх цела Хрыста", – гаворыць папа Францішак.

Дарэчы, у прыпавесці пра Апошні Суд Езус як першы ўчынак называе менавіта наталенне голаду: "Я быў галодны, і вы далі Мне есці" (Мц 25, 35). І абяцае нераўнадушным да бяды бліжняга вечную ўзнагароду Божага Валадарства. Ды і сам Збаўца падае чалавецтву прыклад клопату аб іншых. Калі Ён з вялікім натоўпам быў на пустынным месцы, сказаў вучням: "Вы дайце ім есці!" (Мк 6, 37), пасля чаго памножыў хлеб і рыбу. Езус не грэбаваў фізічнымі патрэбамі, у тым ліку і кармленнем галодных.

А першым, хто пачаў выконваць гэты ўчынак міласэрнасці, быў... Бог. Пасля стварэння чалавека Ён сказаў: "Я даю вам усялякую траву, што рассявае насенне па ўсёй зямлі, і ўсялякае дрэва, плод якога рассявае насенне, каб яны былі вам на спажытак" (Быц 1, 29).



Разглядаючы гэты ўчынак міласэрнасці глыбей, становіцца зразумелым, што "не хлебам адзіным жыве чалавек". Нельга роўным чынам забывацца пра духоўны спажытак. Накарміць галодных – значыць не толькі падзяліцца з кімсьці ежай. Маецца на ўвазе таксама голад сустрэчы з Богам і голад сустрэчы з чалавекам. Людзі могуць адчуваць дэфіцыт ласкі, надзеі, увагі. "Ежай" тут будуць не толькі словы, але і сама блізкасць і пяшчотнасць.

Езус, у сваю чаргу, кажа, што мае хлеб сапраўдны і нятленны, а хто будзе яго спажываць, будзе жыць вечна (параўн. Ян 6, 55). Гэтым хлебам з'яўляецца Яго Цела. З часу Апошняй Вячэры хрысціяне сустракаюцца, каб узгадваць і паўтараць словы, якія Езус сказаў перад смерцю: "Бярыце і ешце".

Бог ніколі не пакіне чалавека галодным, але Ён жадае нашага ўдзелу ў гэтай святой справе. Кожны з нас вольны рабіць свой выбар, хрысціянін жа пакліканы рабіць выключна правільны выбар.

**Ангеліна Пакачайла**



**Кс. Віталій Сідорка**

*Сацыяльная абарона насельніцтва амаль кожнай еўрапейскай краіны прывяла да таго становішча, калі памерці ад голаду практычна немагчыма. Аднак, з другога боку, упэўненасць у тым, што аб бліжнім паклапоціцца дзяржава альбо адна са шматлікіх дабрачынных арганізацый, можа прывесці да пачуцця абыякавасці чалавека адносна патрэб іншага. Хрысціянін жа павінны заўважаць голад бліжняга. Ахвяраваць нешта для бедных, а таксама для тых "галодных", якія могуць жыць з намі пад адным дахам ці працаваць на адной працы. Хвілінка ўвагі, добрае слова, усмешка, нейкая зычлівая дробязь у форме прыгатаванай кавы ці вячэры можа аказацца для бліжняга якраз тым учынкам міласэрнасці, якога ён так моцна патрабуе.*

### 5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:

1. *Мэтай дабрачыннага жэсту з'яўляецца падтрыманне жыцця, падараванага Стварыцелем.*
2. *Ежа – аснова чалавечага жыцця.*
3. *Голад належыць да тых патрэб, заспакаенне якіх нельга адкладваць.*
4. *Ненатолены голад можа прывесці да смяротнага зыходу.*
5. *Нераўнадушны чалавек зведае Божае бласлаўленне.*



◆ *Папа Францішак напісаў прадмову да зборніка “Давайце любіць тых, каго не любяць” (Amiamo chi non è amato), прысвечанага блаславёнай Маці Тэрэзе з Калькуты. “Заставайцеся ў Пану і любіце, як любіць вас Бог, будзьце будаўнікамі мастоў, каб разбурыць логіку падзелаў, адчужэння, страху; смела выходзьце на сустрэчу жыцця, якое з’яўляецца Божым дарам”, – напісаў Пантыфік. Кніга выйшла ў свет 23 ліпеня і ўжо з’явілася на паліцах кніжных крамаў.*

◆ *Кангрэгацыя Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў афіцыйна зацвердзіла трох малых блаславёных мучанікаў з Тласкала заступнікамі мексіканскіх дзяцей. Блаславёныя Хрыстафор, Антоній і Ян, жорстка забітыя ў 1527–1529 гг., належалі да першага пакалення асоб, евангелізаваных францішканцамі і дамініканцамі ў хуткім часе пасля заваявання гэтых земляў Іспаніяй. Яны загінулі ў страшных муках ад рук членаў сваіх сямей ці раўеснікаў за тое, што, будучы каталікамі, змагаліся з язычніцкім ідалапаклонствам і супраціўляліся мнагажонству.*

◆ *18–20 верасня ў Асізі адбудзецца IV Сусветны дзень малітвы аб супакоі. Аб гэтым паведаміла каталіцкая супольнасць св. Ідзія. Вядучыя прадстаўнікі Касцёлаў і рэлігій збяруцца, каб з міжрэлігійнага пункту погляду разам засяродзіцца над выклікамі сучаснага свету. У цэнтры сустрэчы – праблема тэрарызму і міграцыі. Упершыню малітоўная сустрэча ў Асізі прайшла 30 гадоў таму, у 1986 г., па запрашэнні папы Яна Паўла II. Апошняя сустрэча адбылася па ініцыятыве Бенедыкта XVI у кастрычніку 2011 г.*

◆ *Пасля перамогі футбольнай зборнай Партугаліі на чэмпіянаце Еўропы трэнер Фернанда Сантош падзякаваў Богу за поспех. Ён прызнаўся, што перад кожным матчам даваряў сваіх футбалістаў Хрысту. У дзень фіналу раніцай ён прачытаў урывак з Евангелля паводле св. Мацвея, вырашыўшы, што выкарыстае яго на сходзе перад матчам. “Я папрасіў сваіх гульцоў, каб яны былі «чыстыя як галубы і мудрыя як змеі»”, – паведаміў у інтэрв’ю партугальскім журналістам Сантош. Каманда выйграла фінал з лікам 1:0 у дадатковы час. Трэнера зборнай партугальцы празвалі “мужам веры”.*

◆ *Забойства ў Сэнт-Эцьен-дзю-Руврэ мясцовага святара кс. Жака Амеля павялічыла да 14-ці колькасць людзей Касцёла, якія ў гэтым годзе загінулі ў служэнні Хрысту. Палову ахвяр складаюць святары, астатнія – гэта 5 манахінь і 2 свецкіх супрацоўнікі “Карытас”. Забойствы адбыліся на 4-х кантынентах у 10-ці краінах. У мінулым годзе забіты 22 душпастырскія працаўнікі. Годам раней было 26 ахвяр, у 2013 г. – 22, а ў 2011 г. – 13.*

*credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***



# СУСВЕТНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ – САПРАЎДНАЕ СВЯТА ВЕРЫ

● працяг са с. 1

## БЫЦЬ ЗНАКАМ НАДЗЕІ

СДМ сталі святам колераў, твараў, падзей. Нягледзячы на моўны бар’ер, удзельнікі мелі ў сабе волю братэрства і жаданне будаваць масты. Напэўна, кожны прыбыў сюды са сваімі ранамі, разнастайнымі пытаннямі, але, перш за ўсё, з радасцю сустрэчы.

Традыцыйна сімвалічнай карцінай Дзён моладзі з’яўлялася рознакаляровае мора сцягоў, якімі размахвалі ўдзельнікі. Цудоўна, калі сцягі канфліктуючых паміж сабой краін развіваліся побач, бо менавіта так і выглядае будаванне мастоў і нашай будучыні.

Новае пакаленне маладых людзей, спадкаемцаў і прадаўжальнікаў СДМ з упэўненасцю адказала на выклікі сённяшняга дня знакам надзеі. У сучасным свеце, ахопленым рознымі канфліктамі і пагрозай тэрарыстычных актаў (“вайны ў кавалках”, як часта паўтарае Святы Айцец Францішак), вельмі неабходны братэрства, блізкасць, дыялог, прыязнасць і служэнне.

## ЛЮБОЎЮ ЗМЯНЯЦЬ АБЛІЧЧА ЗЯМЛІ

Маладыя людзі былі захоплены прамовамі папы Францішка, які скіроўваў да іх словы даступна і проста. Святы Айцец пакінуў маладым усяго свету важнае пасланне, даў ім канкрэтнае заданне: праз любоў і ўчынкі змяняць аблічча зямлі, свае сэрцы і іншых людзей, служачы адзін аднаму ва ўзаемнай любові.

Папа казаў аб міласэрнасці і неабходнасці схіліцца над слабым чалавекам. “Мы пакліканы, каб служыць укрыжаванаму Езусу ў кожнай ссунутай на ўзбочча асобе, каб дакрануцца да Яго блаславёнага цела ў чалавеку галодным, сасмаглым, нагім, зняволеным, хворым, беспрацоўным, церпячым пераслед, бежанцы, мігранце”, – удакладняў Пантыфік. І запэўніваў моладзь прасіць ласкі зразумення таго, што без Божай міласэрнасці чалавек нічога не можа зрабіць.

Самым запамінальным фрагментам з гамілій Папы стаў заклік “устаць з канапы”, якая не прыносіць шчасця. “Мы павінны вырашыцца замяніць канапу парай чаравікаў, што дапамогуць хадзіць па дарогах, якія ніколі нам не сніліся, пра якія мы нават не думалі; па дарогах, якія могуць адкрыць новыя гарызонты, зарадзіць радасцю – той, якая нараджаецца з любові Бога”. У гэтых словах Святы Айцец тлумачыць, што такія змены ў жыцці можна здзейсніць тады, калі адчуем у сэрцы смак прыгоды. Гэта ведаюць маладыя людзі, якія належаць да розных маладзевых супольнасцей пры сваіх парафіях, а таксама пілігрымы, якія вырушаюць у дарогу. Але часта гэтага зусім не разумеюць тыя, што сядзяць зачыненыя ў сваіх пакоях з тэлефонам, камп’ютарам, тэлевізарам.



## ПЕРАЙМАЦЬ БОЖУЮ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Пазбаўленае прыгоды жыццё мы вядзём таксама тады, калі ў ім ёсць месца толькі на працу і дом. Папа прапануе “выйсці на вуліцы, пераймаючы «шаленства» нашага Бога”. “Задаволены ў Пану не абмяжоўваецца пасрэдным жыццём. Ён палае жаданнем даваць сведчанне і даходзіць да іншых, любіць рызыку і пракладвае новыя дарогі, адкрыты і верны трасам, указаным Святым Духам: насуперак вегетацыі, узрадаваны евангелізацыяй”, – кажа Святы Айцец. Неаднаразова паўтарае маладым: “Касцёл сёння глядзіць на вас. Больш таго, сёння ўвесь свет глядзіць на вас”.

СДМ ужо скончыліся, але свет надалей углядаецца ў твары хлопцаў і дзяўчат, якія даверыліся Езусу. Хочацца спадзявацца, што яны здольныя быць са слабымі і пакінутымі, цешыцца разнастайнасцю, абуджаць у сабе голас Езуса і разам з Ім змяняць сваё жыццё ў прыгоду.



*СДМ, у якіх прынялі ўдзел маладыя людзі з розных куткоў Беларусі, былі багатыя на вялікія духоўныя перажыванні*

## ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

**• СДМ “у мініяцюры” былі арганізаваны з 28 па 31 ліпеня ў Гаване. Кубінская моладзь, якая па розных прычынах (эканамічных і палітычных) не магла трапіць на сустрэчы ў Кракаў, духоўна злучылася з гэтымі падзеямі ў сталіцы сваёй рэспублікі. Праграма была складзена на ўзоры кракаўскіх СДМ: катэхеза, Крыжовы шлях і праход праз Брамы міласэрнасці. Як зазначае кубінская моладзь, нішто не змагло перашкодзіць ёй перажываць гэты досвед. Маладыя людзі адчувалі сябе ў адзінстве з Папам і раўеснікамі, сабранымі на XXXI СДМ.**

**• Падчас папскай Імшы цяжарная жанчына нарадзіла дзяўчынку. Разам з сяброўкай яна прыйшла прыняць удзел у Эўхарыстыі з Пантыфікам. Пасля Евангелля жанчына адчула боль, хоць да тэрміну родаў было яшчэ далёка. На “хуткай” яе адвезлі ў шпіталь, а сяброўка засталася, каб прыняць святую Камунію ў інтэнцыі дзіцяці. Папе паведамілі пра гэты выпадак. Праз прэс-сакратара Ён перадаў жанчыне сваё блаславленне. Дзіця нарадзілася ў Чанстахоўскай бальніцы ў 14.31, незадоўга да Гадзіны міласэрнасці. Бацькі далі дачцэ падвойнае імя Клара-Францішка і нават жартавалі, што Папа павінен стаць хросным для іх дзяўчынкі.**

**• Аўтамабілі, у якіх Святы Айцец перамяшчаўся па Польшчы падчас СДМ, трапяць на аўкцыён. Іх можна будзе купіць разам з рэгістрацыйнымі знакамі: ад K1 да K4 POPE. У напамін на іх знаходзяцца азначэнні з ватыканскіх нумарных знакаў. Атрыманыя ад продажу сродкі будуць перададзены ў кракаўскі “Карытас” на абсталяванне Дома міласэрнасці і Дома хлеба ў Бжэгах, а таксама на пакупку мабільнай клінікі ў лагер бежанцаў у Ліване. З такой жа мэтай на аўкцыён трапяць вышытая стула і чаравікі ручной працы, падараваныя Пантыфіку на заканчэнне СДМ.**



# СДМ 2016 у лічбах

- У Крыжовым шляху са Святым Айцом Францішкам прынялі ўдзел каля 800 тыс. чалавек. На начным чуванні маліліся каля 1,6 млн. маладых людзей, а на ўрачыстай св. Імшы з Папам на завяршэнне Дзён моладзі арганізатары налічылі больш за 2,5 млн. чалавек.
- На кракаўскіх урачыстасцях прысутнічалі каля 1,2 тыс. кардыналаў і біскупаў, у тым ліку 6 біскупаў з нашай краіны, а таксама каля 13 тыс. святароў з усяго свету.
- Падчас прывітання ў працэсіі са сцягамі прайшлі прадстаўнікі са 187 краін, якія прымалі ўдзел у СДМ.
- Цэнтральныя падзеі суправаджаліся аркестрам і хорам з 400 чалавек.
- У рамках Фестывалю моладзі адбылося каля 250 адукацыйных, культурных і спартыўных мерапрыемстваў, падрыхтаваных пры ўдзеле шматлікіх хрысціянскіх артыстаў свету. Мерапрыемствы праходзілі на 27 сцэнах Кракава.
- Па традыцыі на прыватным абедзе з Папам сабралася 12 прадстаўнікоў з розных кантынентаў. Усе маладыя людзі – актыўныя дзеячы кракаўскай падзеі. Сустрэча за агульным сталом працягвалася 1,5 гадзіны.
- У санктуарыі Божай міласэрнасці ў Лаґеўніках прэзентавалі абраз Езуса Міласэрнага, складзены з 15 тыс. фотаздымкаў, дасланых маладымі вернікамі з усяго свету. Праца над стварэннем вывы пямерамі 5,9 на 2,5 м працягвалася 110 дзён.
- Апошнія суткі паліцыя дзяжурыла больш чым у 300 месцах, правяла 119 эскортаў, з іх 110 былі звязаны з візітам Папы і важных гасцей. Не зафіксавана ніводнага выпадку, які б прадстаўляў небяспеку.
- За перыяд СДМ медыцынскую дапамогу атрымалі каля 9 тыс. чалавек. У асноўным удзельнікі пакутавалі з-за перагрэву на сонцы, дробных траўм, укусаў насякомых і праблем са страваваннем.
- З нагоды СДМ і візіту Папы пошта Польшчы выдала марку з вывай Пантыфіка. Маркі наміналам 2,5 злотых выдадзены накладам 1,8 млн. штук, наміналам 6 злотых – 600 тыс. штук.

Каля двух гадоў таму на сустрэчу нашага душпастырства моладзі ў Кракаве, дзе я вучуся, завітала група арганізатараў СДМ. Яны заахвочвалі да ўдзелу ў валантарыяце. Ужо тады я ведаў, што хачу быць часткай гэтай цудоўнай падзеі. Але так склалася, што мая асабістая валанцёрская прыгода началася толькі за некалькі тыдняў да афіцыйнага распачацця мерапрыемства.

На працягу некаторага часу я быў у самым сэрцы валантарыяту – у рэгістрацыйным цэнтры, дзе патрабаваліся людзі для канцылярскай працы. Маім заданнем было адказваць на электронныя лісты і запаўняць анкеты ксяндзоў, якія, напрыклад, забыліся выслаць свой здымак ці іншыя даныя.

"Ваша паслуга вялікая", – такімі словамі на пачатку св. Імшы для валанцёраў у кракаўскіх Лагеўніках звярнуўся да нас мітрапаліт Кракаўскі кардынал Станіслаў Дзівіш. Некалькі тысяч апранутых у блакітнае адзенне маладых людзей на ўсіх вядомых і невядомых мне мовах ад усяго сэрца і з усіх сіл спявалі: "Jesus Christ – You all my life". Я адчуваў дух набліжаецца штосьці сапраўды вялікае і прыгожае. З кожнага кутка Кракава даносілася музыка, спеў. Горад пачаў жыць па-іншаму.

Падчас урачыстага адкрыцця Дзён моладзі маёй задачай была апека і аказанне дапамогі ў сектары для інвалідаў. Невымоўная атмасфера панавала сярод гэтых людзей. Усмешка не сыходзіла з іх твараў, а ў вачах іскрыўся бляск сапраўднай Божай радасці.

На наступны дзень мы разам з іншымі валанцёрамі віталі пілігрымаў на пероне чыгуначнага вакзала і ўказвалі прыбыўшым дарогу на патрэбныя трамвайныя ці аўтобусныя прыпынкі. Не перашкаджала слабое валоданне англійскай мовай. Дастаткова было ўсміхнуцца і махнуць рукой у патрэбным накірунку – і людзі ўжо былі ўдзячныя і шчаслівыя.

Незабыўныя ўражанні пакінулі апошнія дні маладзевай сустрэчы. Мне пашчасціла быць накіраваным на службу ў нулявыя сектары (тыя, што знаходзіліся побач з алтаром). Ад самай раніцы мы чакалі пілігрымаў. Мы былі побач з вядомымі зоркамі, з прэзідэнтам Польшчы, але самае галоўнае – вельмі блізка да Папы.

Валанцёрства, акрамя паслугі бліжнім, да чаго часта заклікае Святы Айцец, з'яўляецца цудоўнай магчымасцю, каб пазнаёміцца з мегаадкрытымі людзьмі. Спадзяюся, мы будзем падтрымліваць кантакт з маімі новымі сябрамі і яшчэ абавязкова сустрэнемся з імі праз тры гады ў Панаме.

*Віктар Міськевіч,*
*Гродна*



*Анастасія Мішкура,*
*Геранёны*

Часам Бог робіць прыгожыя падарункі... Пашчасціла і мне. Гэтым летам я трапіла на СДМ у Кракаве.

На вялікую сустрэчу з папам Францішкам сабралася моладзь, якая жадала рознымі спосабамі нястомна праслаўляць Хрыста. Гэты адзіны год трымаўся на працягу першага тыдня ў розных польскіх дыяцэзіях і на працягу другога тыдня ў Кракаве, кульмінацыйным месцы сёлетняй хрысціянскай падзеі.

Першы тыдзень СДМ мне разам з сябрамі давялося правесці ў Варшаўскай архідыяцэзіі. Знаёмства з цікавай гісторыяй старога горада Варшавы, яе прыгожай архітэктурай, вялікімі і святымі людзьмі гэтай краіны спалучалася з самым галоўным дарам ад Пана Бога – Эўхарыстыяй – і сумеснымі малітвамі на працягу дня.

На другім тыдні СДМ моладзь з усяго свету сабралася ў Кракаве – духоўнай сталіцы Божай міласэрнасці. Сэрца поўнілася вялікай радасцю і шчасцем, якое выплывала знутры, бо толькі такія перажыванні атрымліваеш ад усемагутнага Бога.

Вельмі значнай для мяне стала сустрэча з папам Францішкам. Я ўслухоўвалася ў кожнае слова Пантыфіка і старалася выбраць з яго прамоў штосьці адметнае для сябе. Папа заклікаў нас, моладзь, перамагаць страх, які можа паралізаваць чалавека, і памятаць, што без міласэрнасці чалавек у жыцці нічога не можа зрабіць.

Спадзяюся, Дні моладзі ў Кракаве яшчэ доўгі час будуць мяне натхняць, каб несці міласэрнасць усяму свету, і ў першую чаргу – сваім блізкім і знаёмым.

Для мяне СДМ у Кракаве – гэта міжнародная сустрэча братоў і сясцёр у Хрысце. Да глыбіні душы кранալі ўсмешкі і шчырая радасць ад сустрэчы на вуліцах і плошчах Кракава зусім незнаёмых маладых людзей з розных краін свету. Разам з імі спявалі, смяяліся і віталі Папу. У гэтыя дні Кракаў напоўніўся сямейнай атмасферай, радасцю і маладосцю.

Безумоўна, важным момантам гэтых дзён былі сустрэчы з папам Францішкам. Яго простыя, канкрэтныя і такія актуальныя словы гучалі як заклік да кожнага маладога чалавека выйсці з зоны камфорту. "Езус – Пан рызыкі" – гэты выраз Святога Айца правакуе давяраць Богу, Яго любові і міласэрнасці.

*Ганна Семак,*
*Смаргонь*



*Кс. бп Юзаф Станеўскі*
*адказны па справах моладзі пры ККББ*

Як адказны па справах моладзі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі я спадарожнічаў беларускім удзельнікам СДМ з самага пачатку. Як адна вялікая сям'я мы ехалі спецыяльным цягніком "Гродна – Кракаў", супольна перажывалі ўсе хвалюючыя і радасныя хвіліны.

Падчас СДМ мы сустракалі людзей з розных кантынентаў. Больш за ўсё мяне кранула тое, што, нягледзячы на розніцу ў мовах, маладыя людзі разумелі адзін аднаго, маглі выразіць свае пачуцці, засведчыць, што можна жыць у згодзе і любові як адна сям'я дзяцей Божых. Я ўсцешаны тым, што наша моладзь прыняла ўдзел у гэтай падзеі, таму што менавіта гэтыя хлопцы і дзяўчаты праз некалькі гадоў будуць вырашаць лёс свету. А той духоўны досвед, які яны атрымалі ў Кракаве, безумоўна, прынясе добры плён.

Хачу таксама выразіць глыбокую пашану і ўдзячнасць польскім сем'ям, якія сардэчна і гасцінна прымалі ў сваіх дамах удзельнікаў Дзён моладзі. Пробашч парафіі св. Максімільяна Кольбэ ў Кракаве, дзе мы спыніліся, напярэдадні СДМ арганізаваў для парафіян спецыяльныя курсы англійскай і рускай мовы. Таму людзі былі падрыхтаваныя да прыезду гасцей і ахвотна адкрылі для пілігрымаў не толькі дзверы ў свае дамы, але і ў свае сэрцы.




*Кс. Антоній Грэмза,*
*каардынатар СДМ у Беларусі*

Большасць нашых маладых людзей ніколі раней не прымалі ўдзелу ў СДМ, таму сёлетняя сустрэча ў Кракаве была для іх вялікім адкрыццём і спазнаннем Паўсюднага Касцёла моладзі.

Канешне, можна было ляжаць дома на канапе і сачыць за падзеямі па тэлебачанні або ў інтэрнэце. Але зусім іншае, калі чалавек сам выязджае на сустрэчу і адчувае гэтую невымоўную атмасферу, дух радасці і еднасці, разнастайнасць народаў і моў.

Усё гэта дорыць незабыўныя ўражанні і пакідае глыбокі след у душы. Падчас такіх сустрэч чалавек адкрывае сабе часткай жывога і сапраўднага Касцёла. Гэты досвед супольнасці з'яўляецца адным з найлепшых пладоў удзелу ў СДМ. Сярод беларускіх хлопцаў і дзяўчат быў заўважны духоўны энтузіязм, радасць, эйфарыя, калі яны прадстаўлялі сваю краіну спевам, танцам і сведчаннем. Для іх вельмі важна, што яны маюць сваю ідэнтычнасць і што іх добра і адкрыта ўспрымаюць іншыя.

У гэтым годзе галоўнай тэмай сустрэчы была Божая міласэрнасць. Гэта прымушала задумацца над пытаннем, як Касцёл павінен далей ісці за Хрыстом у духу міласэрнасці. Для мяне як душпастыра гэта таксама быў своеасаблівы выклік, каб знайсці адпаведны спосаб перадаць маладым людзям гэтую таямніцу, каб яны таксама жылі Божай міласэрнасцю, не баяліся ёй даверыцца і дзяліліся ёю з іншымі.

Безумоўна, СДМ кожны перажыў па-свойму... Але адно вядома дакладна: нягледзячы на цяжкасці і стомленасць, мы разам з моладдзю усяго свету перажылі падчас гэтай сустрэчы мноства радасных, шчаслівых і непаўторных хвілін.

***Матэрыялы паласы падрыхтавалі кс. Юрый Марціновіч, Ангеліна Пакачайла і Кінга Красіцкая***







### У Польшчы з'явіцца Парк міласэрнасці

***Ён будзе створаны на тэрыторыі Цэнтра Яна Паўла ІІ "Не бойцеся" пры санктуарыі святога на Белых Морах у Кракаве. Прэм'ер-міністр Польшчы Беата Шыдла і арцыбіскуп Кракаўскі кардынал Станіслаў Дзівіш пасадзілі на гэтым месцы першыя дрэвы.***

*З ініцыятывай стварэння Парку ў напамін аб гістарычнай для Польшчы падзеі, якой з'яўляюцца Сусветныя дні моладзі 2016 і сустрэча з папам Францішкам, выступілі леснікі. Хутка ў парку будуць высаджаны саджанцы вечназялёных дрэў цісу, якія выраслі з насення, пабласлаўлёнага папам Бенедыктам XVI.*




### Адбыліся пахавальныя ўрачыстасці кс. Жака Амеля

***85-гадовы святар трагічна сканаў падчас Эўхарыстыі ад рук ісламістаў, якія перарэзалі яму горла. Папа Францішак назваў загінуўшага "святым ксяндзом, які памёр у хвіліну ахвяравання малітвы аб супакоі".***

*На труне забітага святара паклалі белую альбу і чырвоную стулу, што сімвалізуе мучаніцтва. Пахаванне адбылося ў катэдры Найсвяцейшай Панны Марыі ў Руане, дзе вернікі памаліліся аб супакоі ў свеце. У літургіі прынялі ўдзел каля 1,5 тысячы вернікаў і 150 мусульман, якія сваёй прысутнасцю ў каталіцкай святыні дэманстравалі пратэст супраць тэрарызму.*




### Манахіня з "Голасу Італіі" заспявала для пілігрымаў

***Сястра Крысціна Скучыя выступіла на Шчэпанскай плошчы падчас Фестывалю "Halleluya" у Кракаве. Удзельнікі канцэрта пачулі ў яе выкананні папулярныя творы, у тым ліку і тыя, якія манахіня выконвала падчас удзелу ў вядомым шоу талентаў.***

*Сястра Крысціна перамагла ў музычным шоу "Голас Італіі" два гады таму. Пасля гэтага яна набыла вялікую папулярнасць у інтэрнэце. Нягледзячы на тое, што кансерватыўныя прадстаўнікі касцёльнага асяроддзя крытыкавалі сястру за ўдзел у камерцыйнай праграме, сёстры з супольнасці ўршулянак, да якой належыць таленавітая манахіня, увесь час падтрымлівалі яе ў музычнай кар'еры.*

***Кінга Красіцкая***





Працаўнікі рэдакцыі складаюць словы шчырай удзячнасці кс. Паўлу Салабуду, які на працягу сямі апошніх гадоў з'яўляўся галоўным рэдактарам газеты "Слова Жыцця". За гэты час выданне прыкметна змянілася: з'явіліся новыя аўтары і рубрыкі, газета пачала друкавацца ў каляровым варыянце, выйшла ў электроннай версіі. Дзякуючы намаганням кс. Паўла, на нацыянальным тэлебачанні аднавіўся выпуск перадачы "Сімвал веры", на радыё з'явілася праграма "Голас Евангелля", узнік сайт дыяцэзіі grodnensis.by. Па яго ініцыятыве створана душпастырства працаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, у 2012 г. быў праведзены І Кангрэс каталіцкіх СМІ. Пад кіраўніцтвам зацікаўленага рэдактара мас-медыя Гродзенскай дыяцэзіі ўзняліся на новы ўзровень.

**Кс. Павел, жадаем, каб Бог і надалей натхняў Вас на добрыя справы, даваў сілы і цярплівасць на іх рэалізацыю. Няхай Марыя атуліць Вас мацярынскай ласкай і апекай, а Святы Дух, які прысутны ў парафіі Гродна-Альшанка, адорыць Вас сваімі дарамі і дапаможа годна выконваць святарскую паслугу. Аддзяч, Божа!**

*Калектыў рэдакцыі "Слова Жыцця"*

## Урачыстасці з нагоды гадавіны расстрэлу сясцёр мучаніц адбыліся ў Батароўскім лесе

*30 ліпеня меса трагічнай смерці назарэтанак з Навагрудка наведалі шматлікія пілігрымы, сярод якіх удзельнікі VII Пешай пілігрымкі Гродна – Навагрудак і вернікі з Новай Мышы (Пінская дыяцэзія). На малітве таксама прысутнічалі манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.*



Св. Імшу ля крыжа, усталяванага на месцы расстрэлу, узначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. У гаміліі іерарх заклікаў вернікаў паводле прыкладу сясцёр-мучаніц з Навагрудка не быць абыякавымі да чалавечых бед, але з любоўю і пашанай адносіцца адзін да аднаго.

На заканчэнне Імшы сястра Лаўра Шукеловіч, настаяцельніца сённяшняй навагрудскай супольнасці сясцёр-назарэтанак, выказала падзяку прысутным за супольную малітву. Манахіня адзначыла, што "з кожнай ахвяры Бог абуджае сілу і нанова распальвае веру".

## У Мірскім замку асвяцілі аднаўленую капліцу св. Хрыстафора

*Мерапрыемства было прымеркавана да 400-годдзя з дня смерці князя Мікалая Хрыстафора Радзівіла "Сіроткі", які ў канцы XVI ст. заснаваў і асвяціў у гонар свайго нябеснага заступніка каталіцкую капліцу ў замку.*



Урачыстасць пачалася ў парафіяльным касцёле св. Мікалая ў Міры. Вітаючы шматлікіх вернікаў, мясцовы пробашч кс. Аляксандр Севасцьяновіч выказаў вялікую радасць з таго, што гэтая падзея адбываецца ў літургічны ўспамін св. Хрыстафора.

Затым прысутныя прайшлі да замка, дзе кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу. Іерарх падкрэсліў, што ў гэтым месцы чалавек зможа "ўпрыгожыць сваю душу праз малітву і Божую ласку", а заклікаючы заступніцтва святога Хрыстафора, атрымаць у Пана бласлаўленне і падтрымку.

## Моладзь з Гродзенскай дыяцэзіі адпачыла ў парафіядным летніку ў Польшчы

*Падчас супольнага адпачынку хлопцы і дзяўчаты дэманстравалі свае тэатральныя здольнасці, удзельнічалі ў інтэграцыйных танцах і спартыўных спаборніцтвах, падарожнічалі па польскіх гарадах з цікавым гістарычным мінулым.*



Парафіядны летнік арганізоўваўся для ўдзельнікаў Міжнароднай парафіяды дзяцей і моладзі ў Варшаве і абапіраўся на трыяду: "Святыня – Тэатр – Стадыён".

У гэтым годзе асаблівае значэнне арганізатары надалі блоку "Святыня". Кожны дзень распачынаўся св. Імшой і спецыяльным казаннем, падрыхтаваным дк. Дзянісам Бразінскім. Ён прапанаваў удзельнікам на працягу 10 дзён разважаць над Божымі запаведзямі. Вынікамі роздуму былі штодзённыя прадстаўленні ў форме пантамімы, якія моладзь дэманстравала падчас вячэрніх малітваў.

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ ЧАКАЕ НОВЫХ КАНДЫДЫТАЎ!

**Прыём дакументаў адбываецца ў рэктарацe семінарыі кожны дзень** *(акрамя нядзелі і ўрачыстасцей)* **па папярэднім запісе. Адрас Вышэйшай духоўнай семінарыі: Беларусь, г. Гродна, 230025, вул. Парыжскай Камуны, 1; e-mail: wsd@grodnensis.by; тэл.: (8-0152) 77-02-34.**

Другі тур уступных экзаменаў адбудзецца 16 жніўня ў 10.00. Кандыдатам неабходна паказаць сваё веданне катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.

**Кандыдаты павінны прадставіць наступныя дакументы:**

- заяву з просьбай аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння,
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
- атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы,
- пасведчанне аб сакраманце хросту,
- пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі,
- пасведчанне аб удзеле ў катэхезе,
- характарыстыку ад ксяндза пробашча,
- медыцынскую даведку для паступлення ў ВНУ,
- пашпарт і яго ксеракопію *(старонкі 31–33)*,
- ваенны білет *(прыпісное пасведчанне)* і яго ксеракопію,
- 4 фотаздымкі *(3x4 см)*.



*Больш інфармацыі аб жыцці Гродзенскай семінарыі можна знайсці на афіцыйнай старонцы ўстановы ў інтэрнэце па адрасе wsd.grodnensis.by.*

## АНОНСЫ

### ПАДЗЯКА БОГУ ЗА ДАР ПАКЛІКАННЯ

**28 жніўня ў 12.00**

у катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адбудзецца ўрачыстая св. Імша з нагоды сярэбранага юбілею паслугі манахінь з Супольнасці Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. Эўхарыстыю ўзначаліць ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч.

**Сардэчна запрашаем!**

### ПАРАФІЯ СВ. МАКСІМІЛЬЯНА І СВ. СТАНІСЛАВА Ў КАРОБЧЫЦАХ ЗАПРАШАЕ Ў АЎТОБУСНУЮ ПІЛІГРЫМКУ ДА ПОЛЬСКІХ СВЯТЫНЬ

**Маршрут: Гродна – Ліхэнь – Познань – Гнезна – Торунь – Гродна.**
**Працягласць: 4 дні.**
**Дата: 22–25 верасня.**

*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах: (8-0152) 67-47-24, (8-029) 583-07-02, (8-029) 887-10-24.*

### ЗАПРАШАЕМ У ПЕШУЮ ПІЛІГРЫМКУ ДА МАЦІ БОЖАЙ ВАСТРАБРАМСКАЙ У ВІЛЬНЮ

**Маршрут: Беласток – Гродна – Вільня.**
**Дата: 16–25 жніўня.**
**Дэвіз: "Будзьце міласэрныя".**

**Праграма:**

**16 жніўня** – выхад з архікатэдральнага касцёла ў Беластоку пасля св. Імшы ў 5.30.
**18 жніўня** – прыход у Гродна і св. Імша ў парафіяльным касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі).
**19 жніўня** – св. Імша ў 7.30 у пабернардынскім касцёле і далучэнне да пілігрымкі вернікаў з Гродзенскай дыяцэзіі.
**24 жніўня** – прыход у Вільню, св. Імша ў 16.00.
**25 жніўня** – афіцыйнае заканчэнне пілігрымкі св. Імшой у санктуарыі Маці Божай Міласэрнасці ў Вільні.



*Ад пілігрымаў патрабуецца наяўнасць у пашпарце дзеючай шэнгенскай візы. За падрабязнай інфармацыяй звяртацца да кс. Паўла Безляповіча па тэлефоне: (8-029) 266-77-03.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Ці прымеце Вы ўдзел ва ўрачыстасці Маці Божай Тракельскай?




*Большасць рэспандэнтаў выказалася, што прыняла ўдзел у пешых пілігрымках да Маці Божай Тракельскай. Значная частка прыехала на ўрачыстасць аўтамабілем, яшчэ частка – аўтобусам. Толькі некаторыя спасласіся на недахоп часу, адсутнасць магчымасці даезду і цяжкасць дарогі.*

## КАМЕНТАРЫЙ

*Вынікі чарговага апытання паказваюць, што верны люд нашай краіны вялікай пашанай акружае Найсвяцейшую Панну Марыю. Таму ў сёлетняй адпуставай урачыстасці ў Тракелях прыняло ўдзел мноства пілігрымаў, якія прыбылі са сваімі інтэнцыямі ў дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы нашых сем'яў. Для пераважнай большасці з нас Марыя, як у кожным доме маці, была заўсёды. Няма кватэры ці дома, у якім бы не было абраза Маці Божай, шануемай у незлічонай колькасці вядомых сваімі цудамі Яе выяў. Марыя заўсёды са сваім мацярынскім бласлаўленнем ідзе разам з чалавекам праз жыццё.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**17 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Гервяты;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Чэслаў Штэйн, *проб. Радунь.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*
*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра самавалоданне, свядомы выбар і ўмовы поспеху. Намалюем партрэт пераможцы і распішам графік трэніровак для ўдасканалення сілы волі.*
*Наперад з Богам!*



*Ангеліна Пакачайла*

# Дасягнуць высокага самакантролю

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Што горад разбураны, без мура, тое чалавек, які не валодае духам сваім" (Прып 25, 28)**
У Святым Пісанні гаворыцца, што той, хто лёгка паддаецца ўплыву звонку, падобны да горада з разбуранымі сценамі. Адсутнасць мура робіць горад безабаронным, і дазваляе ворагу лёгка завалодаць ім. Мяжой ад згубных уздзеянняў павінна быць стрыманасць, да якой чалавек мусіць імкнуцца.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб спорт быў нагодай для брацкіх сустрэч паміж народамі і ўносіў свой уклад у справу міру ва ўсім свеце**
На адной з агульных аўдыенцый папа Францішак падкрэсліў, што спорт з'яўляецца ўніверсальнай мовай, якая збліжае народы, і заклікаў вернікаў успрымаць спорт як "практыкаванне ў дабрачыннасці ў працэсе цэласнага развіцця людзей і супольнасцей". Падчас правядзення Алімпійскіх гульняў у Рыа-дэ-Жанейра Пантыфік заахвочвае каталікаў свету маліцца ў інтэнцыі наладжвання праз спорт добрых зносін паміж людзьмі.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: перамога**
Спорт, таксама як і хрысціянскае жыццё, уяўляе сабой барацьбу. А ў гэтай справе, каб перамагчы, галоўнае – не здавацца. Адметна, што любая перамога – гэта, перш за ўсё, перамога над самім сабой. Таму варта навучыцца ў спартсмена такім важным і неабходным якасцям, як упартасць, стараннасць, арганізаванасць, дысцыпліна. Усе гэтыя рысы малююць партрэт пераможцы.

**МЭТА МЕСЯЦА: дасягнуць высокага самакантролю**
Часта чалавекам кіруюць жаданні, спакусы, інстынкты, звычкі і г. д. Пад іх уладай асоба становіцца марыянеткай, не здольнай рабіць свядомы выбар. Самакантроль жа дазваляе дзейнічаць асэнсавана і мэтанакіравана, што дапамагае чалавеку дасягнуць максімальна магчымых вынікаў. У кагосьці гэтая якасць слаба выражана, у кагосьці – мацней. Каб падняцца на высокі ўзровень, неабходна нястомна практыкаваць яе ў жыцці.

**СПРАВА МЕСЯЦА: трэніраваць сілу волі**
Сіла волі не можа ўзнікнуць на роўным месцы. Гэта рыса характару, якая выпрацоўваецца шляхам шматлікіх трэніровак. Варта штодня ставіць перад сабой новыя задачы. Напрыклад, прачнуцца раней, каб больш часу адвесці на малітву, або прысвяціць дадатковы дзень для посту ў пэўнай інтэнцыі. На волі асноўваецца самакантроль, дзякуючы якому нараджаецца свабода ад знешніх абмежаванняў, упэўненасць ва ўласных сілах, здольнасцях і розуме.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Не здавайся", гурт "Яны"**
Каб выстаяць у жыццёвай барацьбе, неабходна падтрымка Хрыста. У песні гучыць заклік: "Не магу без Цябе, Езус, дапамажы!". Мінорныя куплеты пра адсутнасць жадання і сіл змяняюцца мажорным прыпевам: "Не здавайся! Не журыся! І калі раптам упаў, то ўставай!". Выканаўца скіроўвае позірк слухача ў нябёсы, каб растварыцца ў айцоўскай любові.

**КНІГА МЕСЯЦА: "Пераможцы ніколі не здаюцца", Эдвін Коўл**




З дапамогай гэтай кнігі Вы навучыцеся перамагаць, давяраючы ўсе свае цяжкасці Богу. Папулярны хрысціянскі аўтар Эдвін Коўл апісвае прынцыпы суадносін паміж мерай чалавечай адказнасці і Божым промыслам, прапануе дзейсныя парады і біблейскія ісціны, якія дапамагаюць паводзіць у перыяд перамен і крызісаў. Распавядае, як не саступіць жаданню "апусціць рукі" і мужна пераадолець перашкоды.

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Раймунд**



Нарадзіўся ў 1200 годзе ў мясцовасці Портэль (Іспанія) у дваранскай сям'і. З-за таго, што з'явіўся на свет хірургічным шляхам, яго назвалі Ноннатус (Ненароджаны). У 24-гадовым узросце ўступіў у манаскую супольнасць мерседарыяў – Ордэн Найсвяцейшай Панны Марыі Міласэрнасці для Выкупу Нявольнікаў. Быў высланы ў Альгерыю, каб вызваляць хрысціян з арабскай няволі. Пасля таго, як сродкі скончыліся, ён вырашыў сам застацца ў якасці нявольніка ўзамен за аднаго з палонных. Каб манах не пачаў прапаведаваць, яму прабілі вусны і павесілі на рот замок.
У 1239 годзе ордэн мерседарыяў выкупіў яго з палону, і Раймунд вярнуўся ў Іспанію. Папа Рыгор IX ва ўзнагароду надаў вызваленаму тытул кардынала. Набытыя ў няволі хваробы і агульнае аслабленне арганізма сталі прычынай таго, што Раймунд памёр 31 жніўня 1240 года. Быў пахаваны ў Барселоне. Кананізаваны папам Аляксандрам VII у 1657 годзе. З'яўляецца заступнікам парадзіх, немаўлят, акушэраў.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў жніўні?**
*Св. Ян (4 жніўня), св. Дамінік (8 жніўня), св. Філамена (10 жніўня), св. Клара (11 жніўня), св. Максімільян (14 жніўня), св. Стэфан (16 жніўня), св. Алена (18 жніўня), св. Ружа (23 жніўня), св. Юзаф (25 жніўня), св. Аўгусцін (28 жніўня), св. Раймунд (31 жніўня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# "Дакраніся да Божай міласэрнасці"

Пад такім дэвізам адбылася пешая пілігрымка з Гродна ў санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі. Яна вырушыла з парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і стала ўжо 15-й па ліку. У падарожжы прынялі ўдзел вернікі розных узростаў: дзеці, моладзь і дарослыя. Яны разам неслі да ног Езуса Журботнага ўсе справы і інтэнцыі Касцёла на Гродзеншчыне, а таксама малітву за сем'і.












Лепш пытаць, чым памыляцца

**Навошта нам патрэбен духоўны кіраўнік? Як яго выбраць?**

*Неабходнасць духоўнага кіраўніцтва вынікае з чалавечай натуры. Ніхто не можа быць аб'ектыўным суддзёй адносна сваёй справы. Сталае карыстанне кіраўніцтвам – асабліва прыдатны сродак для самаадрачэння і адмаўлення ад неўпарадкаванага самалюбства.*

*Вопыт падказвае, што многія людзі без кіраўніцтва губляюцца ў духоўным жыцці. Сустракаючы шматлікія цяжкасці, яны хутка пераконваюцца ў тым, што імкнуцца наперад "уласнымі сіламі" – нялёгкая справа. Св. Францішак Сальскі і св. Альфонса Лігуоры акцэнтуюць неабходнасць кіраўніцтва для свецкіх асоб, якія вядуць духоўнае жыццё, таму што "душа без кіраўніка – як лодка без шкіпера".*

*Духоўны кіраўнік з'яўляецца сведкам таго, што адбываецца паміж Богам і чалавекам. Дапамагае ўбачыць і рэалізаваць патрабаванні Хрыста. Праз яго кіруе сам Дух Святы.*

*У працэсе духоўнага кіраўніцтва галоўная асоба – Бог, затым – выхаванец, і толькі на трэцім месцы – духоўны кіраўнік. Можна пералічыць некалькі спецыфічных задач сталага спаведніка і духоўнага кіраўніка. Ён спадарожнічае пэнітэнту на шляху навяртання, у працы над сабой, малітве, разуменні таго, як Бог хоча ўнутрана ачысціць яго на шляху духоўнага жыцця. Можа дапамагчы выпрацаваць рэгулярнасць споведзі, навучыць рабіць рахунак сумлення і спавядацца, раіць, як пераадольваць розныя духоўныя і маральныя цяжкасці.*

*Дык як жа знайсці і выбраць святара для сталага кіраўніцтва? Самы просты спосаб – выкарыстаць вопыт папярэдніх споведзей у розных святароў. Звычайна з гэтага кола можна зрабіць добры выбар.*

*Важна, каб матывацыя выбару сталага спаведніка мела духоўны характар, а не вынікала толькі з пачуццёвай прыхільнасці да святара. Трэба, каб гэтае рашэнне на шляху веры было злучана з пастаянай шчырасці і адкрытасці, пакорнасці і даверу да выбранага святара. Неабходна таксама практыкаваць рэгулярную асабістую малітву і быць гатовым прыняць складанасць духоўнага жыцця і працы над сабой. Калі ўсё адпавядае, можна прасіць святара аб сталай паслузе ў сакраманце пакаяння і паяднання. Гэта можна зрабіць падчас споведзі ў яго. Калі святар згадзіцца выконваць паслугу сталага спаведніка, варта дамовіцца з ім на генеральную споведзь з усяго жыцця альбо на размову па-за споведдзю (таксама цалкам таемную), каб больш расказаць яму пра сябе, асабліва аб сваім духоўным стане, галоўных слабасцях і праблемах.*

*Асобныя справы і спосаб споведзі пэнітэнт ужо ўзгадняе са сваім выбраным духоўным кіраўніком.*

**А. д-р Андрэй Шчупал CSsR**

*Прывітанне, Маленькі Сябар! Напэўна, Табе не раз даводзілася чуць: “у цябе не атрымаецца, нават не спрабуй”, “не хопіць сіл, пакінь”. А дзесьці ўнутры Ты разумеў, што ўсё ж такі змог бы, хоць і адольвалі сумненні.*

*Сёння прапануем Табе паразважаць аб тым, што трэба верыць у сябе, нягледзячы на ўсе недавер акружаючых.*

# Жабяняты і высокая вежа





*Неяк жабяняты вырашылі зладзіць паміж сабой спаборніцтва: хто першы ўзлезе на вяршыню вежы.*

*Сабралася шмат цікаўных. Усім хацелася паглядзець, як жабяняты будуць скакаць, і разам з тым пасмяяцца над удзельнікамі. Зразумела, ніхто з гледачоў не верыў, што хтосьці зможа залезці наверх.*

*Спаборніцтва пачалося. З розных бакоў пачуліся крыкі:*

*– У вас нічога не атрымаецца! Гэта вельмі складана! Вежа занадта высокая! Няма шансаў!*

*Адно за адным жабяняты падалі ўніз. Некаторыя ж прадаўжалі караскацца наверх. Натоўп голасна крычаў:*

*– Занадта цяжка! Ні адзін з вас не зможа гэтага зрабіць!*

*Неўзабаве жабяняты стаміліся і пападалі. Акрамя аднаго, якое ўздымалася ўсё вышэй і вышэй... Яно адзінае, хто здолела падняцца на самую вяршыню вежы.*

*Усе сталі распытваць пераможцу, як яму ўдалося знайсці ў сабе столькі сіл.*

*Аказалася, чэмпіён быў глухім.*



*Якое спаборніцтва вырашылі зладзіць жабяняты?*
*Што выкрыквалі гледачы, якія сабраліся паглядзець на канкуруючых?*
*Чаму жабяняты адзін за адным падалі ўніз?*
*Па якой прычыне пераможца выйграў спаборніцтва?*
*Што значыць “быць глухім” да людзей, якія ў цябе не вераць?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху, на які Вас паклікаў усемагутны Бог. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Дух Святы няспынна спасылае ўсе свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваёй любоўю і апекай. Мы шчаслівыя і ўдзячныя Пану Богу за тое, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, за прыгожыя, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, добрае і чулае сэрца, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог, якому Вы даверыліся, бласлаўляе Вас у святарскай паслузе, Марыя, Маці святароў, ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды, а Дух Святы стала адорвае сваімі ласкамі. Жадаем радасці і супакою, дзякуем за святарскую паслугу і шчырую ўсмешку.

*З малітвай Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў і кола Жывога Ружанца з Вялікіх Ядкевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, поспехаў, цярплівасці, мужнасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за духоўную апеку над удзельнікамі Апостальства вечнай малітвы за святароў “Маргарытка”, за спагадлівасць, нястомную працу, шчырую малітву, цярплівасць, дабрыню і разуменне. Няхай Бог Усемагутны дае Вам сілы, Дух Святы надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі заўсёды Вас аберагае.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка”*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, натхнення Святога Духа, апекі Маці Божай. Няхай Езус, якога кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, бласлаўляе Вас. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам, непаўторная, як промень сонейка, усмешка не знікае з твару, а служба Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка” з касцёла ў Жырмунах*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач у складаныя жыццёвыя моманты. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай працы, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за клопат пра нашу святыню, добрыя словы, уважлівасць і чуласць.

*Верныя парафіяне з касцёла Адшукання Святога Крыжа ў Жырмунах*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Імянін і 19-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, Божай дапамогі ў ажыццяўленні душпастырскіх планаў. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі неабходнымі дарамі і ласкамі, умацоўвае ў выкананні нялёгкага святарскага служэння. Святы Заступнік няхай няспынна моліцца за Вас перад Божым алтаром, а Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень. Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на сваім шляху, дораць зычлівасць і дабрыню, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Яго Маці прытуляе Вас да свайго сэрца. Дзякуем за духоўную апеку, клопат аб святыні і ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі, за навуку, шчырую малітву і цярплівасць. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолію Захарэўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, сіл для далейшай святарскай працы. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за Вашу дабрыню, а Маці Божая няспынна клапоціцца пра Вас. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міхалішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення на кожны дзень, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, шмат сіл і стойкасці ў святарскай працы. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Гуляю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца Вашы планы і намеры, а Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе дарогай паклікання.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Вінцэнту Лісоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, аптымізму, сонечных дзён і радасці. Няхай Ваша паслуга на ніве Пана прыносіць задавальненне і шчодры плён. Дзякуем Вам за ўсе намаганні, клопат пра людзей, мудрыя словы, добрае сэрца і цёплую ўсмешку.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця і радасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожную хвіліну Вашага жыцця, Найсвяцейшая Маці няхай няспынна Вамі апекуецца, а Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам. Шчасці Божа!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, моцнай веры і надзеі, штодзённай радасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, дасягнення ўсіх пастаўленых мэт, а таксама Божай дапамогі на кожны дзень жыцця.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваёй апекай, Святы Дух няспынна чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік апекуюцца ў кожны дзень святарскай паслугі і дадаюць моцы і адвагі ў выкананні такой нялёгкай працы.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Людовіку Станішэўскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Пана Езуса. Няхай гэты шлях, які Вы выбралі, будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а сэрца заўсёды радуецца кожнаму пражытаму дню. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гнезна*

**Паважанай Сястры Ганне**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай побач з Вамі заўсёды будуць зычлівыя і добрыя людзі, а ўсмешка ніколі не знікае з Вашага твару. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Гіровічы*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады і шчодрых Божых ласкаў у душпастырскай працы. Дзякуем Вам за ўсмешку, клопат і чулае сэрца, а таксама за прыгожыя і мудрыя павучанні для нас і нашых дзяцей. Няхай Езус прытуляе Вас да свайго сэрца, а Маці Божая апекуецца Вамі заўсёды і ўсюды.

*З малітвай бабуля з праўнучкай Воленькай з Ліды-Фары*

**Шаноўнай Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці і поспехаў у службе Богу і людзям. Няхай Вашае сэрца заўсёды будзе адкрыта на ўсіх, а кожны дзень прыносіць радасць і супакой. Няхай Марыя, нашая Маці, апекуецца Вамі і прытуляе да свайго сэрца, а Езус Хрыстус крочыць з Вамі па той дарозе, якую Вы выбралі. Памятаем пра Вас у сваёй малітве.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог. Няхай Айцец Вас бласлаўляе, Езус Хрыстус дапамагае быць верным святаром, Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, а Марыя Успамога Хрысціян па-мацярынску Вамі апекуецца.

*Закрыстыянін Здзіслаў, моладзь, міністранты, парафіяне касцёла св. Міхала Архангёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі святога Заступніка, а таксама рэалізацыі ўсіх высакародных планаў і намераў, душэўнага супакою, аптымізму і добрых людзей побач.

*З памяццю ў малітве вернікі з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае Вас і вядзе Божымі сцежкамі, Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з капліцы св. Юрыя ў Вароне*

**Шаноўнай Спадарыні Ірыне Пячынскай**

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, радасці і стойкасці. Няхай Святы Дух адорвае Вас неабходнымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці заўсёды абараняе ад усяго зла, а Пан Езус нястомна спасылае на Вас свае дары.

*Францішканскі Ордэн Свецкіх і кола Жывога Ружанца, Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, сіл і стойкасці ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за клопат пра нашу святыню, абвяшчэнне Божага слова, шчырасць і чуласць. Няхай Пан адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца, а святы Заступнік будзе побач у складаныя хвіліны жыцця.

*З глыбокай павагай парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні здароўя, поспехаў і нястомнасці ў душпастырскай паслузе, Божага бласлаўлення, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень жыцця.

*З малітвай верныя парафіяне з Заневічаў*

**У сувязі са смерцю Саўко Івана выказваем сардэчныя спачуванні і словы шчырага жалю яго жонцы Марыі і сынам Дзмітрыю і Аляксандру. Мы яднаемся з Вамі ў малітве ў гэты цяжкі для Вас час.**

*Былыя парафіяне з Зэльвы, сем’і Трубей і Раманчук з Гродна*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3981; тыраж 5100; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная